**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 34 (855) 25 жніўня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**У мінулую суботу ў Алашках (Шаркоўшчынскі раён), на радзіме слыннага садавода Івана Сікоры, прайшоў фестываль Яблычны спас. Да 2015 года фестываль насіў статус раённага, цяпер гэтае мерапрыемства займела статус абласнога, што, натуральна дадатна адбілася на яго маштаб і на колькасць гасцей і ўдзельнікаў. На здымку: урачыстае адкрыццё Яблычнага спасу.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023





## У Невелельскім раёне загінуў малады кіроўца з Глыбокага

**19 жніўня ад удару токам у Невельскім раёне (Пскоўская вобласць) загінуў 30-гадовы кіроўца, які вазіў жвір з Віцебска ў Расію.**

Пры разгрузцы жвіру ў вёсцы Боркі на тэрыторыі аўтапарка Вялікалукскага свінагадоўчага комплексу падняты кузаў аўтамабіля кранаў лініі электраперадачы. Пры гэтым у грузавіка выбухнула кола.

Кіроўца выйшаў з кабіны і атрымаў удар электрычнага току, ён загінуў на месцы.

Загінулы кіроўца — жыхар Глыбокага, дзе ў яго засталіся жонка і двухгадовае дзіця, паведамляе сайт **nevel.me** са спасылкай на відавочнікаў здарэння.



## Полацкі раён

# Ад пагроз да забароны

■ Чэслаў Якубовіч.

**Сёлета ў Беларусі прыбавілася канфліктаў і непаразуменняў з суседняй Расіяй, хоць там усе ведаюць, што беларускія прадукты высокай якасці.**

Аднак толькі ў адзін летні дзень руская Федэральная служба па ветэрынарным і фітасанітарным наглядзе забараніла ўвоз больш 300 тон айчыннай малочнай прадукцыі з сямі беларускіх прадпрыемстваў. На пункце пропуску "Красная Горка" Рассельгаснагляд забракаваў і 60 тон сухога малака, якое было выраблена на ААТ "Полацкі малочны камбінат". Рускім спецыялістам было добра вядома, што прадукцыя пад брэндам "Молочное раздолье" пастаянна знаходзіцца ў ліку лепшых прадуктаў года Беларусі і Расіі, яна рэгулярна ў прызёрах міжнародных конкурсаў, у тым ліку і ў РФ. Але па камандзе зверху расіяне прычапіліся да суправаджальных дакументаў, дэкларацый аб адпаведнасці малочнай прадукцыі патрабаванням Тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза. На самой справе гэтыя дакументы былі зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце па стандартызацыі Беларусі, але гэта не задаволіла суседзяў. Выраблену прадукцыю рускія ў чарговы раз забракавалі, і палачане вымушаны былі павезці яе назад. Сусешыла завадчан, што ў той дзень разам з імі развярнулі назад і прадукцыю флагмана айчыннай малочнай галіны – "Савушкіна прадукту". Падобныя выкрунтасы ў адносінах беларускіх малочных заводаў і мясакамбінатаў узнікаюць рэгулярна. Расія – вельмі дзіўная краіна, яна сотні тон заходняй ежы ўжо закапала бульдозерамі на сметніках, калі мільёны бедных рускіх не могуць нармальна харчавацца.

## Дубровенскі раён

# Мор прыйшоў з Расіі

■ Станіслаў Раманчук.

**Ніяк не можа ўсвядоміць чалавецтва, што з-за бяздумнай вытворчай дзейнасці і забруджвання акружаючага асяроддзя урон прыродзе можа стаць непапраўным**.

Стан водных рэсурсаў хваляваў і многіх жыхароў Дубровенскага раёна. Аднак мясцовае насельніцтва яшчэ болей устрывожылася, калі ў рацэ Днепр цячэнне прынесла тоны мёртвай рыбы, якая плыла бесперапынным патокам. Спецыялісты міжраённай інпекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету адразу абследвалі водную артэрыю і ўстанавілі, што бяда прыйшла зноў з суседняй Расіі. Яшчэ за савецкім часам у суседняй Смаленскай вобласці з завода па вытворчасці мінеральных угнаенняў побач з горадам Дарагабуж адбыўся выкід у раку шкодных рэчываў. Тады экасістэме Дняпра быў нанесены такі моцны ўрон, што рыбы ў рацэ практычна не было гадоў 15-20. На жаль, нешта падобнае можа здарыцца і зараз, але масавы мор адбыўся з-за прыродных катаклізмаў. Расійская экологі сустрэліся з беларускімі калегамі і пацвердзілі гэты факт. Пасля моцных ліўняў сёлета ў раёне горада Сафонава Днепр выйшаў з берагоў, затапіў некалькі прыбрэжных кіламетраў лугоў. Пасля дажджоў моцна стала прыпякаць, трава стала масава гніць, а ў вадзе нават і на беларускай тэрыторыі стала адчувацца нявхатка кіслароду. У выніку рыба стала дохнуць, масавы мор выклікаў перавышэнне ў вадзе іншых шкодных для экасістэмы рэчываў. Пробы вады ў розных месцах Дняпра паказалі, што толькі ў рысе Оршы ўтрыманне кіслароду ў межах нормы. Тым часам мёртвую рыбу пагнала далей па цячэнні Дняпра і, хутчэй усяго, ад новай бяды рака яшчэ не скора аправіцца.

## Пастаўскі раён

# У "Тызенгаўза" з'явіўся сабрат

■ Кастусь Александровіч

**У наш час утрымацца на рынку і не згубіць спажыўцоў вытворцам удаецца толькі тады, калі яны выпускаюць запатрабаваную і якасную прадукцыю.**

Вось і ў Пастаўскім раёне апошнім часам рост эканомікі забяспечвае найперш паспяховая дзейнасць мясцовага малочнага завода. Пасля заканчэння будаўніцтва на ім сучаснага сырзавода прадпрыемства зменшыла выпуск цэльнамалочнай прадукцыі і масла, але значна павялічыла вытворчасць сыроў. На гэту прадукцыю існуе ўстойлівы попыт як на ўнутраным рынку, так і ў Расіі, бо яны вельмі смачныя. Днямі для пакупнікоў маркетынгавая служба завода арганізавала ў адным з фірменных магазінаў у цэнтры горада дэгустацыю чарговай навінкі, сыра "VILNO". Ён адносіцца да катэгорыі іншых элітных цвёрдых сыроў, якімі ганарацца пастаўчане, - "Тызенгаўз" і "Пармезан Гранд" з працяглымі тэрмінамі паспявання. Аднак новы "віленскі" сыр мае свае асаблівасці, бо яго выпрабляюць па арыгінальных рэцэптах, дзякуючы якім атрымоўваецца незвычайна прыемны салодкасалёнаваты смак сапраўднага сыру. Гэта прадукцыя вельмі добра падыходзіць для прыгатавання розных салатаў, яна цудоўная закуска і ўпрыгожыць любы святочны стол. У гэтым пераканаліся гараджане, якія першымі паспрабавалі навінку, а многія з іх адразу купілі новы сыр. Да канца года пастаўчане павінны выпусціць ужо каля 6 тысяч тон цвёрдых і паўцвёрдых сыроў розных гатункаў за кошт павелічэння аб'ёмаў закупак сыравіны.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 25.08.16 | | | | Пятніца 26.08.16 | | | | Субота 27.08.16 | | | | Нядзеля 28.08.16 | | | | Пан. 29.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +14 | +20 | +15 | +13 | +17 | +23 | +18 | +15 | +19 | +26 | +20 | +15 | +15 | +20 | +15 | +13 | +16 | +27 |
| Ціск | 753 | 754 | 754 | 754 | 754 | 754 | 753 | 752 | 751 | 751 | 750 | 749 | 750 | 752 | 753 | 753 | 752 | 750 | 748 |
| Вецер м/сек | 5 Пн-З | 4 Пн | 4 Пн-У | 2 Пн | 2 Пн-З | 3 З | 2 З | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 7 Пд-З | 5 З | 4 Пн-З | 4 Пн-З | 4 Пн-У | 2 Пн-У | 3 Пд-У | 5 Пд | 8 Пд |
| Вільготнасць | 86 | 86 | 61 | 89 | 98 | 88 | 59 | 81 | 94 | 76 | 45 | 67 | 85 | 84 | 54 | 79 | 85 | 70 | 50 |

# Аб самым надзённым

## ВЯЛІЗНЫЯ ДАЎГІ І ЭКАНАМІЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ АСЛАБІЛІ БАНКАЎСКУЮ СІСТЭМУ І СТАЛІ ПАГРАЖАЦЬ УКЛАДАМ НАСЕЛЬНІЦТВА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Рэальны сектар не вярнуў банкаўскай сістэме па стане на 1 ліпеня ўжо 2,7 млрд. долараў з-за існуючых праблем са збытам выпушчанай прадукцыі. У многіх заёмшчыкаў банкаў цяпер жудаснае фінансавае становішча, прадпрыемствы можа чакаць банкруцтва.**

Напрыканцы сёлетняга лета сталі часцей прыходзіць трывожныя паведамленні з розных куткоў Беларусі аб значных цяжкасцях у многіх вытворцаў. Аб пачатку працэдуры банкруцтва сталі заяўляць і нават вядомыя прадпрыемствы, у прыватнасці яна чакае буйнейшага беларускага імпарцёра садавіны і гародніны і сталічнае ЗАТ "Мяса-малочная кампанія". Апошняя была створана ўрадам Беларусі ў 2009 годзе для павелічэння экспарту беларускага харчавання на новых рынках збыту, у тым ліку ў Кітаі. Але нават яна стала эканамічна праблемнай з непад'ёмнымі даўгамі.

Прэзідэнт нібыта таксама рашыўся на тое, што могуць быць ліквідаваны неўзабаве асобныя непад'ёмныя стратныя гаспадаркі, а многіх на вёсцы чакае працэдура дасудовага азараўлення. На гэтым фоне стала вядома, што беларускія заводы і фабрыкі завінавацілі ўжо толькі за энергарэсурсы гіганцкую суму аб'яднанню "Белэнерга" амаль 400 млн. долараў у эквіваленце. Найгоршая сітуацыя па разліках менавіта на прадпрыемствах Міністэрства прамысловасці (узровень аплаты за свет і цяпло 67,9 %).

Усяго па краіне такія даўжнікі не заплацілі болей 8,2 трлн. старых рублёў, а шэраг заводаў працягваюць павялічваць даўгі. Увогуле не адбіцца да думкі, што ў нас усе захраслі ў запазычанасцях адзін другому, за паслугі і заказы не спяшаюцца разлічвацца, а праслаўтай беларускай стабільнасці падышоў канец. З пачатку гэтага года дзяржаўны доўг Беларусі вырас яшчэ амаль на 10 % і перавышае ўжо 13 млрд. долараў, пры тым, што ў жніўні нашай краіне неабходна было выплаціць па ранейшых займах 1 мільярд "зялёненькіх".

Спецыялісты тым часам б'юць трывогу, што ўжо васьмы месяц запар працягваюць расці праблемныя актывы банкаў, а неабходных структурных рэформ, якія б пачалі ажыўляць беларускую эканоміку, не праводзіцца. Не вытрымаў і прама сказаў аб гэтым нават глава Нацбанка Беларусі П. Калавур. Ён, як сапраўдны прафесіянал экстра-класа, дакладна ведае, што ў нас на справе адбываецца і чаму летась беларускі ВУП скараціўся на 3,9 %. Такія тэндэнцыі прадоўжыліся і сёлета, у першым паўгоддзі зніжэнне склала яшчэ 2,5 %. Вядучыя беларускія банкі імкліва сталі губляць прыбытак, сёлета ў 2 разы выраслі даўгі па выдадзеных імі крэдытах.

Рэальны сектар не вярнуў банкаўскай сістэме па стане на 1 ліпеня ўжо 2,7 млрд. долараў з-за існуючых праблем са збытам выпушчанай прадукцыі. У многіх заёмшчыкаў банкаў цяпер жудаснае фінансавае становішча, прадпрыемствы можа чакаць банкруцтва. Большасць вытворцаў сутыкнулася з праблемамі найперш з-за значнага пагаршэння эканамічнай сітуацыі ў асноўнага гандлёвага партнёра Расіі. З-за заходніх санкцый расійскі рубль рэзка аслабеў, выраслі цэны, харчаванне нават - на трэць, што ўслед за гэтым прывяло да падзення попыту на беларускія тавары. Рэзка знізілася валютная выручка ад продажу нашых тавараў на расійскім рынку.

Калі далейшая сітуацыя будзе пагаршацца, як у нас, так і ў Расіі, то былы кіраўнік беларускага Нацбанка прафесар С. Багданкевіч папярэдзіў, што рост праблемных актываў і груз даўгоў у далейшым могуць пагражаць і беларускім укладам насельніцтва. Праўда, у Беларусі вяртанне ўсіх укладаў гарантавана дзяржавай і яна прыкладзе ўсе намаганні, каб да гэтай меры справы не дайшлі. А вось пэўныя меры па рэструктурызацыі даўгоў асобных вытворцаў і па банкруцтву гаротных прадпрыемстваў ( продаж іх актываў, рэалізацыя закладзенай маёмасці ) могуць быць прыняты ў бліжэйшы час. Таксама спецыялісты прагназуюць, што з дзяржаўнага бюджэту могуць быць накіраваны дадатковыя сродкі на пагашэнне велізарных праблемных крэдытаў банкам калгасаўбанкрутаў.

Тым часам у беларускім урадзе паабяцалі, што падатковая палітыка ў 2017 годзе не будзе зменена, а дзяржбюджэт краіны на будучы год пачалі распрацоўваць з разліку кошту нафты ў памеры 35 долараў за барэль. Адначасова з мэтай крыху палепшыць няпростую эканамічную сітуацыю ў Беларусі стварыць ААТ "Агенцтва па кіраванню актывамі". Гэта структура павінна выкупіць безнадзейныя крэдыты айчыннага АПК у суме 5 трлн. рублёў за кошт размяшчэння аблігацый абласцей, Мінфіна, іншых крыніц. Адначасова ліміт знешняга дзяржаўнага доўгу Беларусі павялічылі на такую ж суму, каб мы маглі разлічваць на новыя крэдыты МВФ і Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС.

З апошняга нядаўна краіна атрымала такія патрэбныя 300 млн. долараў у дадатак да паўмільярда долараў першага транша, які паступіў у сакавіку. З абароту ў пачатку жніўня ўжо вывелі 70 % старых банкнот. Рэальныя ж даходы большасці беларусаў працягваюць зніжацца. Многія суайчыннікі большую частку сваіх даходаў вымушаны траціць на прадукты харчавання. Аднак пры гэтым сталі есці болей хлеба і іншых больш танных, але меней карысных для здароўя прадуктаў, не хапае ў рацыёне харчавання беларусаў вітамінаў, морапрадуктаў і садавіны, падаражэла харчаванне дзяцей у школах і садзіках.

## Дзень за днём

**Нацбанк Беларусі вывеў з абароту больш 70 % старых грошаў і апусціў стаўку рэфінансавання да 18 % гадавых. Прадпрыемствы запазычылі "Белэнерга" за цяпло і свет 400 мільёнаў долараў. USЗолатавалютныя рэзервы краіны выраслі ў ліпені на 315 млн. долараў. Дэпазіты на сямейны капітал адкрылі для беларусаў амаль на 210 млн. USD. З пачатку года пенсіі выраслі толькі на 1,4 новыя рублі. За дзве летнія змены ў лагерах адпачылі амаль 300 тысяч дзяцей. У новых цягніках з Мінска да Гомеля з'явіўся бясплатны Wi-Fi. У сталіцы з'явіліся рэтра-аўтаматы з газіроўкай, як за савецкім часам. У Беларусі курыць палова мужчын і 10 % жанчын.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама заявіў, што кандыдат на гэту пасаду Д. Трамп не здольны кіраваць краінай, бо не мае базавых ведаў па ключавых пытаннях адносін у свеце.

**Украіна.** Краіна адмовілася прыняць у Кіеве новага расійскага пасла, свайго пасла з Масквы яна адклікала яшчэ вясной 2015 года і новага дыпламата не прызначала.

**КНДР.** Паўгалодная краіна зноў запусціла 2 ракеты сярэдняй далёкасці, адна з іх узарвалася адразу пасля запуску, гэту правакацыю асудзілі многія дзяржавы свету.

**ЗША.** Першымі ў свеце ВПС краіны стварылі часці з 200 найноўшых самалётаў F-35 5-га пакалення, Расія з Кітаем такую грозную зброю атрымаюць не раней, чым праз 30-40 год.

**Швейцарыя.** Урад краіны афіцыйна праінфармаваў Брусель аб адкліканні сваёй заяўкі аб уступленні ў ЕС, бо звыш 50 % грамадзян на рэферэндуме выказаліся супраць гэтага.

**Літва.** Глава МЗС Л. Лінкявічус заявіў пасля заяў А. Лукашэнкі, што Беларусь не павінна сябе цешыць надзеяй на продаж электраэнергіі з небяспечнай АЭС, да якой няма даверу.

**Польшча.** Пасля паспяховага правядзення саміта НАТО і Сусветных дзён каталіцкай моладзі ўрад краіны адмяніў уведзены ў ліпені кантроль на граніцах з суседзямі па ЕС.

**Грэцыя.** Арцыбіскуп Канстанцінопальскай царквы Іоў заявіў, што яго патрыярхат мае права даваць аўтакефалію праваслаўным Украіны і Беларусі без згоды Масквы.

**Расія.** Намеснік дырэктара Цэнтра даследванняў ЕАБР М. Дземідзенка пацвердзіў, што ЕАЭС не гатовы да ўвядзення агульнай валюты з-за розных структур эканомікі яго членаў.

**Англія.** Паліцыя затрымала 19-гадовага злачынцу негра з праблемамі псіхікі, які позна вечарам у цэнтры Лондана забіў 60-гадовую жанчыну і параніў яшчэ 5 прахожых.

**Расія**. Пасля ўспышкі інфекцыі сібірскай язвы з-за моцнай спёкі на Ямале шпіталізавалі 90 аленяводаў, сярод заражаных дзяцей памёр 12-гадовы хлопчык, таксама загінула і шмат аленяў.

**Аўстралія.** У штаце Тасманія 63-гадовая жанчына пасля шматлікіх спроб упершыню з дапамогай ЭКО зацяжарыла і парадзіла дзяўчынку, бацьку дзіця – 78 гадоў.

**ЗША.** Упершыню ў свеце 42-гадовы каскадзёр-скайдайвер Люк Айкінс скокнуў без парашута з вышыні 7,6 км і ўдала прызямліўся на сетку ў пустыні Каліфорніі.

**Бразілія.** У праграму летніх Алімпійскіх гульняў 2020 года ў Токіо МАК уключыў 5 новых відаў спорту – бейсбол, каратэ, сёрфінг, скейтбордынг і скалалазанне.

**Нарвегія.** За масавую бойку на міжнародным турніры расійскую футбольную каманду "Космас" падлеткаў да 14 гадоў са Стаўрапаля выгналі са стадыёна і пакаралі штрафам

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Урад: скарыстацца субсідыямі на «камуналку» зможа кожная 10-я семья




■ FINANCE.TUT.BY

**Урад падлічыў, колькі беларусаў змогуць разлічваць на безнаяўныя субсідыі па аплаце «камуналкі». Яны, нагадаем, павінны з'явіцца з 1 кастрычніка гэтага года. Як паведамляе БЕЛТА, скарыстацца дапамогай дзяржавы змогуць каля 10% сем'яў.**

Ва ўрадзе вырашылі, што разлічваць на дапамогу дзяржавы змогуць толькі тыя сем'і, у якіх плацяжы па жыроўцы будуць перавышаць пэўны працэнт даходаў. «Для гараджан гэта выдаткі больш за 20% у сукупным даходзе, а для сельскай мясцовасці - 15%», - нагадаў прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў. Паводле яго слоў, прэзідэнт з такой прапановай урада пагадзіўся.

Па падліках чыноўнікаў, скарыстацца субсідыямі зможа 10% сем'яў, або 400 тысяч сем'яў.

На дапамогу ў аплаце «камуналкі» спатрэбіцца каля 50 мільёнаў рублёў (у новых грошах). «Гэтыя грошы ў бюджэце ёсць, - заявіў Андрэй Кабякоў. - Яны атрымліваюцца за кошт таго, што на працягу гэтага года былі зніжаны затраты на аказанне ЖКП і, як вы памятаеце, у пачатку года было пэўнае павышэнне шэрагу тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі. Усё гэта ў сукупнасці дало магчымасць перад пачаткам ацяпляльнага сезона аказваць такія безнаяўныя жыллёвыя субсідыі тым катэгорыям грамадзян, якія сапраўды маюць у гэтым патрэбу».

Праўда, як раней падлічваў FINANCE.TUT.BY, на субсідыі зможа прэтэндаваць больш сціплая колькасць сем'яў. Калі зыходзіць з сум у жыроўцы стандартнай беларускай сям'і (два дарослых і дзіця) у зімовы перыяд і з крытэраў, закладзеных ўрадам, то дапамогу дадуць тады, калі сукупны даход не перавысіць палову мінімалкі. Па сутнасці, гаворка ідзе пра малазабяспечаных, якіх не больш за 4%.

Але не выключана, што чыноўнікі ў сваіх разліках абапіраюцца ўжо на новы кошт паслуг ЖКГ. Паводле слоў Андрэя Кабякова, урад разглядае розныя варыянты тарыфаў на новы ацяпляльны сезон. «Прынцып адзін: хто можа, той павінен плаціць, а тым, хто не зможа з-за аб'ектыўных прычын, дзяржава акажа сацыяльную падтрымку», - сказаў кіраўнік урада.

Дарэчы, з 1 кастрычніка ў выпадку неабходнасці субсідыі на аплату паслуг ЖКГ будуць падавацца пенсіянерам і інвалідам аўтаматычна (гэта значыць па выяўленым прынцыпе). Астатнія грамадзяне для атрымання безнаяўных субсідый павінны будуць звярнуцца ў адпаведныя інстанцыі.

Нагадаем, некаторыя работнікі ЖКГ лічаць, што тыя, хто раней атрымліваў субсідыі на аплату «камуналкі», могуць іх пазбавіцца пасля ўкаранення сістэмы безнаяўнай дапамогі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Пасля нештатнай сітуацыі на І-м энергаблоку "Расатам" прыпыніў да канца завяршэння расследавання інцыдэнту мантаж рэактара ўзводзімай Беларускай АЭС.

**Асіповічы.** Урад Беларусі ўзяў пад свой кантроль мясцовы вагонабудаўнічы завод, каб пазбегнуць яго банкруцтва ў жорсткай канкурэнцыі з вытворцамі з Кітая.

**Мінск.** Эксперты ЕАБР, які кантралюе РФ, спрагназавалі павышэнне цэн для Беларусі на расійскую нафту да сусветнага ўзроўню ў бліжэйшыя гады і зніжэнне нафтавых даходаў.

**Брэст.** Рассельгаснагляд папярэдзіў аб магчымым скарачэнні паставак з СП "Санта Брэмар", мясцовага мясакамбіната, з малзаводаў Магілёва, Мінска, Шчучына і іншых.

**Мінск.** Эксперт па фінансах В. Іосуб пацвердзіў, што ў эканоміцы не ўсё добра, але дэнамінацыя не абваліла курс нацвалюты, да канца года долар не дасягне 2,5 рубля.

**Быхаў.** Мясцовая фарэлевая гаспадарка "Лохва" стане галаўным прадпрыемствам па вырошчванні каштоўных відаў рыб разам з калегамі ў Бялынічах і Касцюковічах.

**Мінск.** Міжнародная фінансавая карпарацыя IFC Сусветнага банка гатова купіць за 55 млн. долараў частку актываў вядучай гандлёвай сеткі "Еўраопт".

**Горкі.** Усіх, хто падаў дакументы на платнае аддзяленне, залічылі на вучобу ў БСГА на спецыяльнасці АПК, толькі на "правазнаўства" ўзнік конкурс з 224 прахадным балам.

**Гродна.** Начальнік Беларускай чыгункі У. Марозаў пацвердзіў, што пачалася праца па скарачэнні часу язды адсюль на поездзе да Мінска да 3 гадзін 30-40 мінут.

**Мінск.** Пасля 17 гадоў працы з ансамбля "Песняры" звольніўся мастацкі кіраўнік Вячаслаў Шарапаў, які вырашыў даць дарогу на эстраду сваім маладым калегам.

**Кобрын.** У хлеве жыхара вёскі Стрыгава міліцыя знайшла 7 экзатычных сабак-гіен коштам 84 тысячы долараў, якіх прысвоілі сабе пасля прыплоду работнікі Мінскага заапарка.

**Карэлічы.** Паблізу музейнага замкавага комплексу ў Міры археолагі знайшлі шэраг унікальных фрагментаў сталовай керамікі, чарапіцы, ізразцоў XVI-XVII стагоддзяў.

**Мінск.** Трохразовы алімпійскі чэмпіён У. Парфяновіч пацвердзіў, што мужчынскую зборную веслярoў Беларусі адхілі справядліва ад міжнародных стартаў за допінг.

**Барысаў.** Больш 5 млн. еўра страціў ФК БАТЭ, які бясслаўна прайграў з лікам 0:3 ірландцам і не выйшаў у плей-оф кваліфікацыі футбольнай Лігі чэмпіёнаў УЕФА.

**Мінск.** Тэлеканал АНТ абурыўся дзейнасцю праваслаўных "патрыятычных" лагераў, якія арганізуюць рускія неанацысты для беларускіх падлеткаў, прайшоўся і па рэактару АЭС.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Браслаў.** Падчас рабочай паездкі А. Лукашэнка з верталёта агледзеў ход уборкі ў заходніх раёнах, пабываў на мясцовым філіяле Глыбоцкага МКК, на адной з аграсядзіб краю.

**Віцебск.** Да новага навучальнага года ў вобласці закрыюць яшчэ 27 малакамплектных школ у сельскай мясцовасці, хоць вучняў у гарадах стала болей на 1,5 тысячы.

**Талачын.** Абласны суд пакараў 17-гадовага ліцэіста 14 гадамі турмы за збіццё, рабаванне на станцыі мужчыны, якога ён потым кінуў на рэльсы і пацярпелага зарэзаў поезд.

**Браслаў.** Падчас жніва ў раён упершыню ў Беларусі паступілі збожжаўборачныя камбайны "Гомсельмаша" на гусеніцах для работы на палях пасля моцных дажджоў.

**Шаркаўшчына.** Раён пакінуў апошняе месца ў Беларусі па ўзроўні зарплат, аднак у дзясятку найбяднейшых рэгіёнаў краіны патрапілі суседнія Міёрскі і Браслаўскі раёны.

**Віцебск.** Па факце гібелі 34-гадовай жанчыны Следчы камітэт распачаў крымінальную справу, як мужу, афіцэру спецназа пагражае да 12 год турмы за той скачок з парашутам.

**Шуміліна**. Падчас раскопак паселішча Кардош вучоныя Інстытута гісторыі НАН Беларусі адшукалі ўнікальнае пасяленне IX-X стагоддзяў і каля 600 прадметаў быту мінулага.

**Віцебск.** Раніцай на адной з вуліц горада ў выніку аварыі двух машын з бензавоза ГАЗ-53, які перакуліўся, вылілася каля 5 тон саляркі, прыйшлося яе заліць пеннай падушкай.

**Полацк.** Вечарам у выніку жудаснай аварыі на трасе Р-48 на Лепель згарэлі 3 аўтамабілі, з моцнымі апёкамі цела шпіталізавалі ў бальніцу 6 пацярпелых, з іх - адно дзіця.

**Дзісна.** Архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій узначаліў святочныя Богаслужэнні ў гонар цудатворнай іконы Маці Божай у двух цэркваx горада на працягу 2-х дзён.

**Орша.** Былога 38-гадовага інжынера дыягнастычнай станцыі суд адправіў на 5 гадоў у калонію і канфіскаваў маёмасць за атрыманне 14 разоў хабару, пад суд пойдзе і калега.

**Паставы.** Міністэрства культуры Беларусі ўзгадніла ўстаноўку ў райцэнтры мемарыяльнай дошкі ў гонар двух пастаўчан, якія сталі слаўтымі акцёрамі ў Польшчы.

**Докшыцы.** Услед за фестывалем праваслаўнай моладзі "Пакуль мы маладыя" на працягу трох дзён прайшоў "Дзень горада. Фестываль дзвюх рэк" з конкурсам прыгажосці.

**Глыбокае.** У мясцовым гісторыка-этнаграфічным музеі адкрылася выстава жывапісу "Вясёлкавы след" беларускага мастака Фёдара Ястраба, ураджэнца Докшыцкага раёна.

**Шаркаўшчына.** Суд пакараў дзвюх сяброvак, бухгалтараў-пенсіянерак 7 і 6 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за крадзяжы з рахункаў фірмы 220 млн. старых рублёў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

Уладзімір Скрабатун, *тэкст і фота.*

Вядоўца са сцэны:

# "Здзейснілася прадказанне газеты "Наша Ніва", зробленае ў 1910-м годзе!

*"Прыйдзе час, калі памяць пра Ігната Буйніцкага будзе святой для ўсіх! І гэтая сённяшняя ўрачыстасць – сведчанне таму! Памяць пра Ігната Буйніцкага дарагая для ўсіх!"*

**У мінулую нядзелю ў Празароках прайшло свята ў гонар 155-х угодкаў з Дня нараджэння заснавальніка прафесійнага беларускага тэатра Ігната Буйніцкага.**

У 1910 годзе "Наша Ніва" даволі падрабязна асвятляла гастрольны тур "тэатра Ігната Буйніцкага" па гарадах і мястэчках Беларусі. Менавіта пасля вандроўкі ў Полацк з'явіліся адзначаныя ў загалоўку словы, падпісаныя карэспандэнтам Власт: *«Вокляскам канца не было: грымела гудзела ўся саля, як лежэнь з ройнымі пчоламі… Тэатр беларускі становіцца ўжо, дзякуючы заходам і рупнасьці дзядзькі Ігната Буйніцкага на цьвердыя падваліны і выплываюць усё новыя і новыя сілы. За гэтыя стараньні і рупнасьць шчырае дзякуй яму, а калісь, калі прабудзецца сьвядомасьць ува ўсім беларускім народзе, **памяць Ігната Буйніцкага будзе святой для ўсіх»**.*

Святочныя мерапрыемствы з нагоды 155-х угодкаў з Дня нараджэння Ігната Буйніцкага, заснавальніка прафесійнага беларускага тэатра, пачаліся а 12:30. Працавалі выставы народнай творчасці Дома рамёстваў і мясцовых умельцаў, кніжная выстава, прадстаўлены работы школьнага музея І.Ц. Буйніцкага, гралі музыкі.

У касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі з 13 да 14 гадзін адбывалася святочная імша. Затым – мітынг і ўскладанне кветак да помніка Ігната Буйніцкага. А 14:30 у мясцовым Доме культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё свята, яго і пачаў "сам" Ігнат Буйніцкі.



Урачыстаць у мясцовым Доме культуры пачынае "сам" Ігнат Буйніцкі.

Прывітальнае слова ад кіраўніцтва раёна прамовіла Тацціяна Малатоўнік, намеснік старшыні райвыканкама па сацыяльных пытаннях. Згадаўшы пры гэтым, што Глыбоччына – радзіма дзясяткаў выбітных людзей, якія пакінулі свой важкі след у гісторыі Беларусі. Не толькі радзіма заснавальніка нацыянальнага тэатра Ігната Буйніцкага, мастака Язэпа Драздовіча, сцэнарыста і пісьменніка Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча, сусветнавядомага авіяканструктара Паўла Сухога, але ёсць радзіма і пачынальнікаў новага беларускага адраджэння – Вацлава Ластоўскага, палітыка, гісторыка, літаратара, і Клаўдзія Дуж-Душэўскага, грамадска-культурнага дзеяча, архітэктара, дыпламата. Стала ўжо добрай традыцыяй тое, што глыбоцкія чыноўнікі не цураюцца на сцэне роднай мовы.

На святочнай сцэне выступілі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Дамоў культуры Глыбоцкага раёна, а таксама артысты мясцовага СДК, якія прадэманстравалі танцы і праспявалі любімыя беларускія песні Ігната Буйніцкага, што былі ў рэпертуары яго тэатральнай трупы. Паэт Алесь Жыгуноў прачытаў свае вершы.

Не прамінуў свята і Віталь Воранаў (Удзела), які паставіў за мэту адрадзіць дударскія традыцыі на Глыбоччыне. Ёсць і схільнасць глыбоцкіх уладаў падтрымаць гэтае Віталёва пачынанне, асабліва ў тэме правядзення агульнабеларускіх дударскіх фэстаў на Глыбоччыне, якія, меркавана, закрануць і Празарокі, бо ў трупе Буйніцкага быў свой дудар - Адам Шульга.

Трэба адзначыць вельмі цудоўнае і прафесійнае выступленне глыбоцкіх артыстаў, артыстаў нашых СДК, а таксама вядоўцаў свята.

Поўная зала! Сапраўды, свята ў Празароках удалося!



Танцы з рэпертуару трупы Ігната Буйніцкага.



Тэатралізаваная пастаноўка. "П'яны" Крыніцкі імкнецца патрапіць на сцэну, Альжбэта не пускае.

# "Вера і розум – як два крылы, на якіх дух чалавечы ўзносіцца да сузірання праўды"

21 жніўня, у перадапошнюю нядзелю вакацый, Лучайская святыня сабрала пад свае скляпенні школьнікаў, студэнтаў, настаўнікаў, бацькоў, каб з Божым благаслаўленнем і малітвай распачаць новы навучальны год.

Перад святой Імшой выстраілася чарга да канфесіяналу, ачысціць свае душы імкнуліся многія прысутныя. Нядзельнае казанне ксёндз пробашч Мікалай Ліпскі прысвяціў тэме пазнання, ведаў у жыцці кожнага чалавека. Святар зазначыў, што "праз пазнанне праслаўляем Пана Бога". Казнадзей падкрэсліў, што сям'я – першая школа, якая з'яўляецца пачаткам і крыніцай нашага пазнання. Ксёндз прыцытаваў словы святога Яна Паўла ІІ, што "Вера і розум – як два крылы, на якіх дух чалавечы ўзносіцца да сузірання праўды".



Падчас працэсіі з дарамі парафіяльная моладзь несла прызы-кубкі, якія атрымала на дыяцэзіяльнай Парафіядзе. Лучайская моладзь дастойна прадставіла парафію ў некалькіх намінацыях. Напрыканцы святой Імшы, усе, хто мае дачыненне да школы, да навукі, атрымалі Божае бласлаўленне і цудоўныя сшыткі з беларускім арнаментам.

Святочны канцэрт, які па словах пробашча, стаў першым урокам у новым навучальным годзе, быў падрыхтаваны Алесем Лосем і Алесяй Сівохінай. Вядомы музыка, этнограф, прадставіў гледачам старажытныя беларускія інстумэнты: дуду, скрыпку, цымбалы, гармонік. Цікава распавёў пра гісторыю ўзнікнення, паходжання кожнага з іх, і лекцыю замацаваў самабытнай ігрой. Розныя кампазіцыі: "Віленскі вальс", "Крэўскі вальс", полька "Завілей", "Ойра" прагучалі ў праграме. Пасля выступу Алесь Лось падзякаваў ксяндзу Мікалаю за традыцыю, якая ўсталявалася ў Лучаі. Музыка зазначыў, што Лучайскі касцёл – адзін з нямногіх, дзе так падтрымліваецца беларуская культура.

У сваю чаргу пробашч выказаў удзячнасць выступоўцам, падарыўшы ім на памяць кнігу Папы Францішка, прэзентацыя якой адбылася падчас Браслаўскіх урачыстасцяў: " Імя Бога – Міласэрнасць", на беларускай мове.

Вялікае ўражанне канцэрт зрабіў на самых малодшых слухачоў, а пасля таго, як сам Алесь Лось даў ім майстар-клас ігры на дудачцы, то, напэўна, гэты дзень стаў незабыўным для некаторых з іх. Апошняе летняе свята ў Лучаі атрымалася такім жа цёплым, як і сонечны жнівеньскі дзень, такім незвычайна ўтульным і душэўным.

Наступны раз парафія святога Юды Тадэвуша, Апостала, запрашае да ўдзелу ў тытульным фэсце 29 кастрычніка.

***Алёна Клімза-Колтан**, тэкст. **Карына і Марыя Радзюш**, фота.*

# Дарогі вядуць у Аглону

**У Беларусі добра ведаюць мястэчка Будслаў, якое знаходзіцца ў Мядзельскім раёне, за 50 км на паўднёвы ўсход ад Мядзеля.**



**Кліменцій Кожан,** *краязнаўца, м. Германавічы.*

Будслаў вядомы з 1504 года як уласнасць манахаў-бернардзінцаў, якія ў 1589 годзе пабудавалі тут драўляны, а ў 1783 годзе мураваны касцёл, пры якім знаходзіліся Будслаўскі кляштар бернардзінцаў і 2 капліцы. Кожны год у пачатку ліпеня ў Будслаў прыходзіць шмат паломнікаў.

Чытаючы пра Будслаў, я ўспомніў пра падобную святыню ў латвійскай Аглоне. Калі ў 1960-1964 гадах працаваў у Карасінскай сярэдняй школе Браслаўскага раёна, што ў 3-4 кіламетрах ад Літвы і Латвіі, то часта любіў у выхадныя дні, а ў час канікулаў з вучнямі, падарожнічаць па Латвіі. Наведаў больш 50 невялікіх раённых гарадоў і мястэчак, асобных сядзіб і маляўнічых мясцін. Сярод іх знакамітае мястэчка Аглона. 15 жніўня ў Аглонскай базіліцы адзначаецца адно з галоўных каталіцкіх святаў Латвіі – Узнясенне Прасвятой Панны Марыі. Штогод каталікі з розных куткоў Латвіі і з іншых краін, у тым ліку з Беларусі, прымаюць удзел у паломніцтве ў Аглону. Многія паломнікі адпраўляюцца ў дарогу з 1 жніўня. Сярод паломнікаў ёсць і моладзь, і пажылыя людзі, і цэлыя сем'і з дзецьмі. Рыжане праходзяць шлях у 320 кіламетраў.

У сярэдзіне жніўня практычна на ўсіх дарогах Прэйльскага раёна можна сустрэць групы паломнікаў. Людзі ідуць да абраза Аглонскай Божай Маці за суцяшэннем і надзеяй. Для гэтага яны праходзяць увесь шлях пешшу. Згодна павер'ям, цудатворны абраз дапамагае толькі тым, хто прыйшоў да яго пешшу і з чыстым сэрцам.

У 2006 годзе свята Узнясення Божай Маці было прызнана афіцыйным. Асвечаная ў 1751 годзе Аглонская базіліка ўжо даўно з'яўляецца адной з еўрапейскіх святынь. Захаваліся звесткі аб тым, што ля абраза Божай Маці ў Аглонскай базіліцы не раз адбываліся цуды. Статус базілікі быў прысвоены сабору Папам Рымскім Іаанам-Паўлам II у 1980 годзе.



Фэст у Аглоне, 13 жніўня 2016 года.



Глыбоцкія пілігрымы ў Будславе, 1 ліпеня 2016 года.

# Выстава, прысвечаная Ігнату Буйніцкаму адкрылася ў Глыбоцкім музеі

**У Глыбоцкім гісторыка-этнаграфічным музеі адкрылася выстава, прымеркаваная да 155-годдзя з Дня нараджэння заснавальніка беларускага прафесійнага тэатра Ігната Буйніцкага.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

Выстава адкрылася 19 жніўня ў 16 гадзін. Яна называецца "Яго жыццё – тэатр".

На ёй прадстаўлены фотаматэрыялы аб жыцці і творчасці Ігната Буйніцкага і яго трупы, вершы, прысвечаныя яму.

Але асноўную частку экспазіцыі складаюць музычныя інструменты, як самаробныя, так і фабрычныя. Самы стары з іх – скрыпка 1931 года. Акрамя інструментаў, што захоўваюцца ў глыбоцкім музеі, на выставе прадстаўлены таксама музычныя інструменты з браслаўскага і германавіцкага музеяў.

Супрацоўнік музея Уладзімір Міронцык распавёў прысутным пра гісторыю кожнага інструмента, таксама можна было паслухаць яго гучанне ў запісу.

А вось гучанне дуды можна было паслухаць ужывую, бо яе прадставіў Віталь Воранаў, ураджэнец глыбоцкага раёна, які займаецца адраджэннем гэтага інструмента на Глыбоччыне.

У трупе Буйніцкага таксама быў дудар – Адам Шульга. Склад трупы Буйніцкага час ад часу змяняўся, а вось дудар быў увесь час адзін. Свой галаўны ўбор, які носіць назву магерка, Віталь таксама ўзяў ад трупы Буйніцкага. Яго на замову зрабіла супрацоўніца Глыбоцкага Дома рамёстваў Кацярына Кляпацкая.

Паэт Алесь Жыгуноў прачытаў верш "Рэй Ігната Буйніцкага" і падараваў музею свой апошні зборнік.

Выстава будзе працягвацца да 15 кастрычніка.



Алесь Жыгуноў чытае верш "Рэй Ігната Буйніцкага".



Віталь Воранаў.



Уладзімір Міронцык распавядае пра гісторыю і асаблівасці музычных інструментаў.

# Не варта забывацца пра электрабяспеку



**Электрычнасць даўно і трывала ўвайшло ў наша жыццё. Сучасны чалавек нават не можа ўявіць сваё жыццё без электрычнай энергіі.**

**■ А. Ішуцін,**
*інспектар дзяржінспекцыі Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

Адкрыццё электрычнасці прынесла ў наша паўсядзённае жыццё шмат выгодаў і карысных прыбораў. Электрычнасць пранікла ва ўсе сферы жыцця чалавека.

Аднак, не варта забывацца, што за ўяўнай прастатой і бяскрыўднасцю электрычнай энергіі хаваецца вялікая пагроза для жыцця і здароўя чалавека. Гэта здараецца, калі ён забываецца аб элементарных мерах засцярогі і бяспечнай эксплуатацыі электрычных сетак і бытавых электрапрыбораў.

Такім чынам, абавязковай умовай выкарыстання электрычнай энергіі павінна быць безумоўнае захаванне элементарных патрабаванняў электрабяспекі. Згодна са статыстыкай, прычыны электратраўматызму ў побыце не вельмі разнастайныя і не мяняюцца ўжо на працягу вось ужо некалькі дзясяткаў гадоў.

**Асноўнымі прычынамі паражэння электрычным токам у хатніх умовах з'яўляюцца:**

■ парушэнне элементарных нормаў электрабяспекі;

■ эксплуатацыя няспраўных электрапрыбораў;

■ неасцярожнае абыходжанне з электраўстаноўкамі дома і ў прысядзібнай гаспадарцы;

■ рамонт электрапрыбораў і электраправодкі асобамі, якія не маюць дастатковай кваліфікацыі.

Прывядзём некалькі агульных правілаў, выкананне якіх можа прадухіліць магчымыя непрыемнасці пры эксплуатацыі бытавых электрапрыбораў.

1. Адной з прычынаў электратраўматызму з'яўляецца парушэнне ізаляцыі электраправодкі ў даступных для дотыку месцах. Асабліва гэта характэрна для памяшканняў, дзе выкананая адкрытая пракладка электраправодкі. Будзе нялішнім перыядычны агляд і праверка супраціўлення ізаляцыі электрычных правадоў, а пры выяўленні парушэння ізаляцыі неабходна прыняць тэрміновыя меры для яе аднаўлення.

2. Пры ўзнікненні па тых ці іншых прычынах кароткіх замыканняў і перагрузак у электрычных ланцугах павінны адключацца аўтаматычныя выключальнікі або "перагараць" плаўкія ўстаўкі засцерагальнікаў, што ўстаноўленыя ва ўвадных шчытах жылых дамоў або кватэр. Для выключэння ўзгарання правадоў токавыя ўстаўкі гэтых апаратаў павінны быць калібраванымі, гэта значыць, яны павінны спрацоўваць пры токах, што перавышаюць устаноўленыя значэнні. Усталёўваць некалібраваныя ўстаўкі (жучкі) катэгарычна забаронена.

3. Пры эксплуатацыі ўнутрыдамовых электрычных сетак вельмі важна сачыць за спраўнасцю ўстановачных элементаў электраправодкі, гэта значыць разетак і выключальнікаў, каб яны не сталі прычынай паражэння электрычным токам.

4. Сеткавыя шнуры шмат якіх электрычных прыбораў часта выходзяць са строю з-за надлому або абрыву токаправоднай жылы, што можа выклікаць іскрэнне, нагрэў і нават узгаранне провада. Таму вельмі важна сачыць за спраўнасцю ізаляцыі провада і вілкі ўключэння сеткавых шнуроў.

5. Пры неабходнасці рамонту электрапрыбораў іх трэба абавязкова адключаць ад сеткі. Алё ўсё ж больш правільна будзе, калі вы паручыце рамонт кваліфікаванаму спецыялісту.

6. Вельмі важна звярнуць увагу на зазямленне металічных корпусаў электраўстановак. Гэта абароніць вас ад паражэння электрычным токам пры парушэнні ізаляцыі і з'яўлення небяспечнага напружання на корпусе электрапрыёмніка. Таму электрычныя сеткі ў сучасных дамах і кватэрах выконваюць трохправодным спосабам – з зазамляючым ахоўным праваднікам.

7. Нельга пакідаць электрапрыборы пад напружаннем без нагляду на доўгі тэрмін.

Гэтыя простыя правілы гарантуюць нам надзейнасць работы і бяспечнасць пры эксплуатацыі бытавых электрапрыбораў.



**Электрабяспека ў побыце**




# Аб транспарціроўцы паляўнічых жывёл

**Што рабіць пры выяўленні параненай, хворай або загінулай дзікай капытнай жывёлы? У інспекцыю даволі часта звяртаюцца грамадзяне з падобным пытаннем.**

**■ Валерый Катовіч,** *старшы дзяржаўны інспектар глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Разам з тым адказ на яго выразна выкладзены ў Правілах вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. Пунктам 148 Правілаў установлена, што пры выяўленні ў паляўнічых угоддзях і (або) на тэрыторыях, не ўключаных у фонд паляўнічых угоддзяў, у тым ліку на дарогах, параненых, траўміраваных, хворых або загінулых дзікіх жывёл забараняецца самавольна здабываць іх, разбіраць іх тушы або перамяшчаць (транспартаваць) іх тушы або часткі туш, выкарыстоўваць прадукцыю (мяса, шкуру, рогі і іншае). У выпадку выяўлення параненай, траўміраванай, хворай або загінулай паляўнічай жывёлы нарміруемых відаў (у тым ліку дзікай капытнай жывёлы) або дзікіх відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, асоба, якая выявіла такую жывёлу, павінна паведаміць карыстальніку паляўнічых угоддзяў, або ў аператыўна-дзяжурную службу тэрытарыяльнага органа ўнутраных спраў, або ў дзяжурную службу раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях, якія абавязаныя перадаць дадзенае паведамленне службовай асобе паляўнічых угоддзяў або мясцовага выканаўчага і распарадчага органа.

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы і карыстальнікі паляўнічых угоддзяў абавязаны прадставіць у тэрытарыяльныя органы ўнутраных спраў і раённыя аддзелы па надзвычайных сітуацыях кантактныя тэлефоны службовых асоб, упаўнаважаных прымаць рашэнне па арганізацыі выратавання або здабычы параненай, траўміраванай, хворай паляўнічай жывёлы.

Па факце выяўлення параненай, траўміраванай, хворай або загінулай паляўнічай жывёлы нарміруемых відаў службовая асоба карыстальнік паляўнічых угоддзяў, а ў фондзе запасу паляўнічых угоддзяў альбо на тэрыторыях, не ўключаных у фонд паляўнічых угоддзяў, – упаўнаважаная службовая асоба мясцовага выканаўчага і распарадчага органа з удзелам прадстаўнікоў арганізацыі Міністэрства лясной гаспадаркі і тэрытарыяльнага органа Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама спецыяліста дзяржаўнай ветэрынарнай службы (калі жывёла хворая або загінула) складаюць акт, пасля чаго пры неабходнасці ў іх прысутнасці адбываецца здабыча параненай, траўміраванай або хворай паляўнічай жывёлы. Перамяшчэнне (транспарціроўка), раздзелка паляўнічых жывёл без наяўнасці акту, складзенага ў названых вышэй выпадках, забароненыя. Звяртаем асаблівую ўвагу, што незаконныя (у тым ліку самавольныя) перамяшчэнне (транспарціроўка) або раздзелка дзікіх капытных жывёл, у тым ліку загінулых, або іх частак, з'яўляюцца крымінальна каральнымі дзеяннямі, адказнасць за ўчыненне якіх устаноўлена часткамі 2, 3 артыкула 282-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 8905528, МТС 2494549, МТС 6456678.**



## МНС інфармуе

**на 23.08.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 439;
Гібель людзей – 48, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 15;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

